Перасылка аплачана рычалтам

Цана асобнага нумару 10 гр.

# БЕЛАРУСЬ ПРАЦЫ

Орган Беларускае Нацыяналістычнае Сябрыны.

№ 2 | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Баровая 7-а, 2 | ВІЛЬНЯ, 15-га ЛЮТАГА 1934 г. | Выходзіць непэрыёдычна | ГОД І

## Прыступіць да працы!

„Палякі зьдзекуюцца“, „палякі не даюць“, „палякі адбіраюць“, „палякі нішчаць“, „палякі дэнацыяналізуюць“, „перапоўнены вастрогі“, скрыпяць шыбеніцы“, „народ енчыць“, „вёска ў цемры“, „трэба распаліць пажар рэвалюцыі“, „мы ўжо хутка пераможам“, „нас ужо не разьбіць“ і гэтак навакол,—вось тыя енклівыя крыкі і выкрыкі, якімі падмінавана было кожнае слова беларускае прэсы апошніх 15 гадоў у межах Зах. Беларусі. Бязумоўна, ніхто ня можа і ня будзе рабіць закідаў таму, што пры наступе сілаў варожых трэба было бараніцца, голасна сьцьвярджаць свае крыўды і супроць іх пратэставаць. Згодзімся і з тым, што прыведзеныя пратэсты ў 100 прац. былі абаснаванымі, што беларускаму народу рабілася і робіцца вялікая крыўда. Аднак усё гэта ні ў якай меры не абасноўвае таго, што абарона правоў народу і нацыі можа быць зьведзена да самых толькі пратэстаў. Тымчасам, уся дагэтулішняя беларуская палітыка й абарона правоў нацыі якраз ператварыліся ў бяздзейны і крыклівы пратэст-лямант, які часта пачаў быць раўназначным з паняцьцем адраджэнскае працы. Больш таго, пад гэныя выкрыкі, сьцьверджываньні ды пратэсты пачало падшывацца звычайнае нічоганяробленьне, ашуканства і правакацыя. Але нават пры ўсім гэтым, можна было-б яшчэ неяк згадзіцца з карыснасьцю гэтых пратэстаў-енкаў, калі-б яны ўсапраўды справу здабыцьця незалежнасьці пасунулі хоць на адзін крок наперад.

Мы аднак бачым, што на працягу 15 гадоў беларускія палітыкі ўсе свае высілкі накіроўвалі на тое, каб як наймацней адзін аднаго пераенчыць і перакрычэць, каб як найяскравей выказаць свой радыкалізм і максымалізм; гэтыя крыкі-пратэсты пачалі даходзіць ужо да спазмаў, і што-ж, справа незалежнасьці беларускага народу не пасунулася наперад ані на крок. Калі гэныя пратэсты мелі быць сьціраваны супроць Польшчы, то і ў гэным выпадку яны нічога не асягнулі. Не скалыхнулася гэтым ані сумленьне Польшчы, ані тымбольш сумленьне Эўропы; не падмінавалася гэнымі лямантамі і дзяржаўнасьць польская; не перашкодзіла гэта і ўзмацаваньню яе значэньня міжнароднага. Словам, шлях енкаў і біцьця галавой аб сьценку ніякіх позытыўных карысьцяў справе нашага вызваленьня ня прынёс. Наадварот, гэтымі енкамі мы пачалі толькі асьмяшацца, накідаючы цёмную пляму на годнасьць нацыі, гэтым біцьцём галоў аб сьценкі мы пачалі безкарысна вынішчаць актыў нацыі.

І з гэтым трэба нарэшце скончыць!

На мэтодзе романтычнага разьбіваньня лбоў і бязьдзейных пратэстаў, не ўзмацаваных беларускім народным актывізмам і сьведамасьцю, трэба паставіць крыжык. Мінулыя гады наглядна паказалі, што з енкамі ніхто не рахуецца, наадварот, яшчэ больш толькі адбываецца наступаў на правы нацыі, бо кожны бачыць, што дагэтулішняя беларуская мляўкасьць зможа адказаць на ўсё гэта толькі енкам.

Ніхто асабліва не перапалохаўся і трэску разьбіваных лбоў ці адвагі тых, што ўмелі толькі страшна страшыць ды баяцца ўласнага ценю.

Трэба скончыць і з тымі бяздзейнымі і дэмаралізуючымі выжыданьнямі ды чаканьнямі нейкіх агульнасусьветных палітычных заварушэньняў, пры якіх чамусьці, нават нічога ня робячы, незалежнасьць Беларусі прыдзе да нас сама сабой.

Трэба зразумець, што шляхі фактычнага нічоганяробленьня справу вызваленьня народу ніколі позытыўна не разьвяжуць. На ўсе варожыя наступы на жыцьцё і суцэльнасьць нацыі трэба і можна пераконваюча адказаць толькі нязухільным зьвялічваньнем нацыянальнага капіталу духа і мазалёў, нязломным узростам нацыянальнае сьведамасьці і актывізму.

Словам, трэба прыступіць да працы!

Трэба папросту абвесьціць і правесьці ва ўдарніцкім тэмпе пяцігодку разбудовы нацыянальных фундамэнтаў. Трэба натхнуць запалам і прыцягнуць да гэтае работы ўвесь народ, плянова распадзяліўшы функцыі між інтэлігэнцыяй, моладзьдзю і народнымі гушчамі. У праграму такое пяцігодкі павінны ўвайсьці наступныя заданьні:

1. Стварэньне падставаў для разьвіцьця беларускае навукі і мастацтва.

2. Стварэньне падставаў дзеля ўзгадаваньня кадраў навуковых сілаў і інтэлігэнцыі.

3. Стварэньне падставаў дзеля ўзгадаваньня нацыяналь-народнае сьведамасьці і актывізму.

4. Стварэньне падставаў дзеля канчальнага зьбеларушчаньня царквы праваслаўнай і каталіцкай.

5. Стварэньне падставаў дзеля разбудовы коопэратыўна-ўзаемаўспамагаўчае і сельска-гаспадарчае культуры народных гушчаў.

6. Стварэньне падставаў для сталае акцыі пазашкольнага навучаньня, завочных курсаў, народных унівэрсытэтаў і г. д.

7. Стварэньне падставаў для працаў сталых аб'ездных народных тэатраў, хораў, аркестраў і г. д.

8. Прышчапленьне народным гушчам пачуцьця абавязку выпісываньня і распашыраньня беларускае прэсы і наагул беларускага друкаванага слова.

9. Прышчапленьне народным гушчам і інтэлігэнцыі пачуцьця абавязку належаньня да беларускіх культурна-асьветных арганізацыяў, да іх чыннага падтрымоўваньня і пашыраньня.

10. Няўхільнае здабываньне беларускім элемэнтам у межах Зах. Беларусі пляцовак дзяржаўных, грамадзкіх, камунальных, культурных, узгадаваўчых і т. п.

11. Паглыбленьне ў народзе пачуцьця годнасьці і непадзельнасьці беларускае нацыі.

Пры ўсебеларускім жаданьні і высілку, выкананьне вышэй прыведзенае праграмы зьяўляецца справай зусім магчымай. І мы яе выканаць мусім, хоць-бы як гэта нам і не хацелася, бо вынікі такое пяцігодкі будуць паказальным сьвядоцтвам нашага права на незалежнасьць і самастойнасьць. І мы яе выканаем, бо калі мы змаглі на працягу 15 гадоў утрымацца на паверхні жыцьця толькі пры помачы енкаў і біцьця лбоў аб сьцены, то тым больш пры праграмовай і творчай рабоце вытрымаем пяць гадоў, выконываючы плян нашае пяцігодкі, якая стане зрубам пад сапраўдную нашую духовую і дзяржаўную незалежнасьць, дасьць разгон позытыўнай рабоце і на будучыню.

Варункам ажыцьцяўленьня пляноў нацыянальнае пяцігодкі зьяўляецца толькі тое, каб увесь народ ператварыўся ў здысцыплінаваны актыў працы, бо ў гэтым выпадку можам рахаваць выключна толькі на свае ўласныя сілы. Калі-ж да гэтае мазоліста-кіпучае ўсебеларускае работы можа шмат хто ня прыстане, або адпадзе на поўдарозе, то гэта толькі тым лепш, бо чым ямчэйшым і больш загартаваным будзе наш нацыянальны фронт, тым магутнейшым стане яго жыцьцятворчы і барацьбітны шлях.

Выканаўшы такую пяцігодку, мы зможам прыступіць да позытыўнага і аканчальнага вырашэньня пытаньняў нацыянальных і соцыяльных. Наш пратэст будзе тады тым актам, з якім сілы варожыя беларускай нацыі будуць прымушаны лічыцца, бо гэта будзе ўжо ня енк габінэтных палітыкаў, але рашучы голас беларускае нацыі.

## ЗАКЛІК
### Беларускае Нацыяналістычнае Сябрыны.

Беларусы! Голад і заразныя хваробы хапілі ў свае ціскі блізу сто тысяч беларускага сялянства Віленшчыны. Беларускія дзеці з прычыны голаду і хваробы ня могуць хадзіць у школы. Вось факт—перад якім мы стаім. Ня будзем у гэты час доўга разьбірацца над прычынамі голаду, бо галодныя сяньня чакаюць не навыясьненьні прычынаў гэтага, але перадусім на кавалак хлеба. І гэты кавалак хлеба мы павінна неадкладна даць. Гінуць нашыя-ж браты-беларусы і калі мы ім не дапаможам, то ад каго-ж болей яны маюць чакаць ратунку? Хіба-ж нам самым больш павінна залежаць на жыцьці сваіх братоў, чым можа залежыць на гэтым чужым! І мы павінны неадкладна ім дапамагчы, каб і яны ў свой час змаглі дапамагчы нам. Мы павінны ім яшчэ сяньня дапамагчы, каб ня дапусьціць сярод іх галоднае сьмерці, бо жыцьцё кожнага беларуса павінна быць часткаю жыцьця кожнага з нас.

Беларусы! Дзяржава ўжо прыступіла да змаганьня голаду і хвароб сярод нашых братоў. У Вільні арганізаваўся ваяводзкі камітэт помачы пацярпеўшым ад неўраджаю, які ўжо зьвярнуўся з заклікам да ўсіх, каб неадкладна дапамагчы галадаючым. Падобна арганізаваліся камітэты павятовыя і гмінныя. Кожны з нас павінен неадкладна прыступіць да гэтых камітэтаў і сваёй ахвярай пасіліць акцыю дапамогі галадаючым.

Беларусы! Яшчэ сяньня выканайце свой беларускі і чалавечы абавязак, запісываючыся ў камітэты помачы галодным, даючы асабіста ці цэлай грамадай вёскі дапамогі грашыма, прадуктамі, вопраткай ці кніжкамі. Ахвяры перасылайце ў павятовыя камітэты пры „Wydziałach Powiatowych“, або ў Вільню на адрас—ul. Magdaleny 2, pokój 11, ці ўрэшце грошы на konto czekowe P. K. O. № 144.400.

*Беларуская Нацыяналістычная Сябрына.*

Вільня, дн. 8. II. 34 г.

## Палёгка беларускай вёсцы.

Прыймаючы пад увагу цяжкое эканамічнае становішча насельніцтва Браслаўскага, Дзісьненскага і Пастаўскага паветаў, ахопленых, як ведама, ціскамі голаду і хвароб, дзяржаўныя банкі і землябробскія арганізацыі адсрочылі плату даўгоў ад 3 да 6 месяцаў.

## Новы наступ на белар. гімназію.

Чырвоная маскоўская палітыка імкнецца, як ведама, зьнішчыць беларускі рух ня толькі ў межах БССР, але і тут — у Зах. Беларусі. З гэтаю мэтай маскоўскія агенты апошнім часам пачалі ізноў завіхацца ля Віленскай беларускай гімназіі. Старым спосабам іх правакацыйна-грабарская палітыка распачынаецца ізноў ад хвальбы ў „парт'ячэйках“ асобы дыр. Астроўскага. Што гэная хвальба мае азначаць, беларускае грамадзянства добра ведае. Некалькі гадоў назад, таксама пачалося ад хвальбы дырэктара, а скончылася на выдаленьні з гімназіі пад сотню вучняў.

Перасьцярагаем грамадзянства і вучняў перад чароднымі актамі правакацыі.

## Беларусы ў Чэхаславаччыне.

У Чэхаславаччыне знаходзіцца шмат беларусаў-эмігрантаў. Пераважна гэта студэнская моладзь, якая па тым ці іншым прычынам была змушана пакінуць бацькаўшчыну. У вапошнія часы гэная моладзь апынулася ў вельмі цяжкім матэрыяльным становішчы. У сувязі з агульным эканамічным крызысам, наша моладзь была пазбаўлена стыпэндыяў, якія атрымлівала ад Дапамогавага фонду. У студзені месяцы былі выданы толькі невялічкія дапамогі і тыя з сумаў, ахвяраваных прэзыдэнтам Чэхаславаччыны праф. Масарыкам.

# Падтрымаць акцыю барацьбы з голадам у беларускай вёсцы!

Некалькі дзесяткаў тысяч беларускага сялянства гібее ад голаду. Публічна сьцьвердзілі гэта ўжо і чыньнікі ўрадавыя і польская прэса. Мы мусім сьцьвердзіць, што фактычна нішчыцца голадам ня некалькі дзесяткаў тысяч, але галадуе сяньня амаль усё беларускае сялянства. Чыньнікі ўрадавыя апошнім часам прыступілі да акцыі барацьбы з голадам нашае вёскі і з вынікам яго—заразнымі хваробамі. Зразумела, нашым абавязкам зьяўляецца падтрыманьне гэнае акцыі, як маючай на мэце падмогу беларускаму сялянству. Аднак, да гэтае акцыі мы адносімся крытычна і ўважаем, што яна голаду аканчальна не зьліквідуе, бо прычыны яго паўстаньня маюць характар куды глыбейшы, чым гэта здаецца чыньнікам ўрадавым. І каб гаварыць аб сапраўдным жаданьні ліквідацыі голаду і заразных хвароб, трэба зразумець падставы іх паўставаньня.

Адносіны польскае дзяржавы да беларускае вёскі ў межах Зах. Беларусі былі і ёсьць больш, чым несправядлівыя. Прыдбаныя дзяржавай землі ў Зах. Беларусі сяньня аддадзены ня іх сапраўдным гаспадаром — беларускаму беззямельніку ці малазямельніку, — але польскай вайскова-калянізацыйнай палітыцы, праводзячай у гушчах беларускага насельніцтва безаглядную і не перабіраючую ў спосабах дэнацыяналізацыйную акцыю. Зямельная рэформа, аб якой гэтак шырака гаварылася, у жыцьцё не праведзена У той час, як паны абшарнікі распасываюцца на тысячах дзесяцін зямлі, добра апрацаванай і пладароднай, беларускі селянін душыцца і гібее на дзесяцінцы пяскоў, якім ня можа даць і гадавога адпачынку. Беларускі селянін ня мае і патрэбных сродкаў на прыдбаньне сабе штучнага ўдабрэньня зямлі, неабходных гаспадарскіх прыладаў, наагул, на падняцьце гаспадарчае культуры сваіх палеткаў. Дзяржава гэтым пякучым патрэбам ня йдзе на спатканьне, не прызначае сталых і здавальняючых дапамогаў, хоць-жа беларускі селянін змушаны плаціць бязлікія падаткі, няраз руйнуючы імі сваю гаспадарку дарэшты. Праўда, закладаюцца на нашых землях розныя „Кулкі рольнічэ“, аднак фактычнае іх назначэньне зьвялося не да справы разьвіцьця сельска-гаспадарчае культуры і дапамогі амаль зруйнаванаму сялянству, але ўзноўжа, да акцыі нішчэньня беларускае сьведамасьці і самаго беларускага народу. Ня можа наш селянін рацыянальна загаспадаравацца на сваей ніве ўжо хоць-бы папросту таму, што наша вёска ня мае і здавальняючае колькасьці пачаткавых школаў, і зусім няма школаў беларускіх, якія заняліся-б не дэнацыяналізаваньнем вёскі, але падняцьцем роўню яе культуры наагул і сельска-гаспадарчай у васаблівасьці.

Усё вышэйпералічанае спрычынілася таму, што, як выказала статыстыка, ураджайнасьць за апошнія гады стала зьменшывацца, асягаючы ўсяго 50 прац. мінулагодніх ураджаяў. Вось у гэтым і крыюцца фактычныя прычыны сяньняшняга голаду нашае вёскі. Гаворачы аб яго ліквідацыі, трэба нарэшце ўжо падумаць і аб ліквідацыі вышэйпералічаных анармальнасьцяў, інакш голад стане штодзенным гасьцём нашае вёскі, а гэта дасьць падставы думкам, што дзяржаўная палітыка накіроўваецца на фізычнае вынішчэньне значнае часьціны беларускага народу.

Беларускае грамадзянства, не чакаючы на разьвязаньне дзяржавай вышэйпералічаных прынцыповых патрэб нашае вёскі, павінна неадкладна прыступіць да падтрыманьня сяньняшняй дзяржаўнай акцыі барацьбы з голадам. Абставіны, у якіх апынулася частка беларускага сялянства, зьяўляюцца папросту жудаснымі. Голадам ахоплена цэлая Віленшчына, асабліва ў цяжкім палажэньні знаходзяцца паветы дзісьненскі, сьвянцянскі, браслаўскі, пастаўскі і віленскі, У гэтых паветах агульны лік галадаючых даходзіць да 100 тысяч асоб. У вадным толькі дзісьненскім павеце 20 тысяч дзяцей патрабуе неадкладнага дакармліваньня, інакш будуць яны змушаны спыніць сваю навуку. Побач з голадам і холадам пачала, як і заўсёды ў такіх выпадках бывае, распашырацца эпідэмія заразных хвароб. У павеце дзісьненскім пашыраецца сыпны тыфус, у павеце браслаўскім вынішчываюць людзей хваробы скурныя.

Дзеля барацьбы з голадам утварыўся ў Вільні адумысны Камітэт Нясеньня Помачы галадаючым, які ў гэтых днях выдаў публічную адозву, заклікаючы грамадзянства да ахвяр. Падобныя камітэты пачалі арганізавацца і на правінцыі. Дзяржава наразе выслала галадаючым 400 тонн мукі, 73 тонны солі, 2500 пудоў збожжа, 8 тысяч пудоў бульбы ды адпаведную колькасьць крупаў. Дзеля афіцыяльнага ўстанаўленьня разьмераў голаду і зьвялічэньня дзяржаўнае дапамогі ў натуры і грашыма, цэнтральныя ўлады выслалі з Варшавы ў паветы, ахопленыя голадам, спэцыяльную камісію.

Дзеля барацьбы з эпідэміяй хароб, віленска-ваяводзкія і дзяржаўныя ўлады выслалі на ўспомненыя паветы тры санітарныя і доктарскія экспэдыцыі, якія бясплатна забясьпечываюць насельніцтва перад хваробамі. Акцыя гэная ахапіла ўжо некалькі тысяч сялян.

Зусім згаджаемся з „Бел. Крыніцай“, што „...адны захады адміністрацыйнай улады ад голаду ў гэтых паветах не ўратуюць. Тут патрэбна шырэйшая акцыя і рэальная помач. Гэтай справай павінны

## Арышты чырвоных „барацьбітоў“.

Гэтымі днямі былі ў Вільні арыштаваны рэдактар А. Карповіч і яго галоўныя супрацоўнікі — Тарасюк і Міська, усе з паходжаньня беларусы. Арыштаваныя былі ведамы на віленска-беларускім грунце, як чырвона-заслужаныя „барацьбіты“ і вялікія абаронцы чырвона-маскоўскага гвалту над Беларускім Народам.

Некаторыя з іх праз некалькі дзён пасьля арыштаваньня былі з вастрогу звольнены.

## Беларускі рух у Югаславіі.

Па няспраўджаным дагэтуль весткам, адзін з беларускіх студэнтаў з Віл. Унів., былы старшыня Беларускага Студ. Саюзу ў Вільні, які студ'юе цяпер у Югаславіі, прыступіў там да закладзінаў беларускае грамадзкае арганізацыі. Прымкнула там да яго быццам часьціна беларусаў—эмігрантаў з межаў БССР.

## Новыя арышты ў Менску.

Савет Народных Камісараў БССР распачаў прымусовае праводжаньне ў жыцьцё ведамае рэформы правапісу беларускае мовы. Выклікала гэта рашучы спрацiў ня толькі з боку народных гушчаў, але таксама і з боку беларускіх камуністаў. У сувязі з гэтым у Менску адбыліся новыя арышты. ГПУ арыштавала старшыню Менскага Камсамола Лепіна і сэкрэтара Ляніцкага, якім афіцыяльна закідываецца беларуская «нацдэмаўская» работа. Праз некалькі дзён пасьля іх увязьненьня былі арыштаваны яшчэ і іншыя сябры ўспомненага Камсамола. У сучасную хвіліну вядзецца там грунтоўная „чыстка ад элемэнтаў беларуска-“нацдэмаўскіх“.

## Нямеччына не дапамагае беларусам.

У вышэйшых школах у Бэрліне вучыцца частка моладзі, якая паходзіць з межаў Зах. Беларусі. Варункі, у якіх прыходзіцця там беларускаму студэнту здабываць вышэйшую асьвету, зьяўляюцца вельмі цяжкімі. У той час, як абвешчываюцца розэнбэргаўскія пляны вызваленьня Беларусі, Нямеччына ў сапраўднасьці ня можа даць нават малой дапамогі некалькі беларускім студэнтам.

## Уцёкі вязьняў з менскага вастрогу.

У ноч з 4 на 5 лютага с. г. з менскага (БССР) вастрогу ўцякло 30 палітычных вязьняў. У сувязі з гэтым савецкія ўлады ўсілілі старожу граніцаў польска-савецкай і латвійска-савецкай. У гэтым-жа вастрозе папоўнілі самагубства праф. Уладз. Чарновіч і інжынер Мікераў.

# Дабро і воля беларускага народу—над усё!

Палітычна - грамадзкія падзеі апошніх гадоў у межах розных краінаў Эўропы, Азіі і Амэрыкі наглядна выказалі імкненьні пасобных народаў да нацыяналізацыі свайго дзяржаўнага жыцьця. Нацыяналістычныя поклічы віднеюцца сяньня на сьцягох амаль усіх народаў. Побач з гэтым наглядаецца ўсюдых і другі працэс, а найменна тое, што ўсе віды камунізму, сацыялізму, дэмократызму і інш. адначасна пачынаюць банкрутаваць.

І гэныя працэсы зьяўляюцца зусім зразумелымі.

Кожная нацыя імкнецца да таго, каб яе народ быў як мага наймчэй духова і фізычна скансалідаваным і згуртаваным каля адзінаагульнае ідэі і высілку—воля і дабро народу. Камунізмы ды іншыя палітычна-партыйныя ідэолёгіі, якія намагаліся гэта асягнуць, наглядна выказалі, што гэтага асягнуць ніяк ня змогуць. Справа ў тым, што ўсе гэныя ідэолёгіі звыкліся ісьці поруч з сабой. Дзякуючы сваім процілежным кірункам і імкненьням, яны не кансалідавалі і лучылі нацыянальна-народныя высілкі і сілы, але іх разьядалі, разьбівалі кансалідацыю нацыі, уводзілі ў жыцьцё яе дзяржаўнага арганізму заразкі анархіі і ўсялякіх крызысаў.

Не маглі яны сцэмэнтаваць народ і таму, што дзялілі яго на клясы, выклікаючы між імі антаганізмы.

У сувязі з усім гэтым і наглядаецца ўспомнены працэс нацыяналізацыі. Прамаўляе на яго карысьць ужо тое, што нацыяналізм —гэта эгоізм народу, а знача яго інстынкт жыцьця, каторы найлепш патрапіць самаздаволіць свой дзяржаўны арганізм, без патрэбы гвалтаў над сабой. Тымчасам, маскоўскі камунізм выказаў, што бяз гвалту ён ня змог-бы існаваць, а хоцьжа нават пры помачы гэтых гвалтаў ды мільённых ахвяраў і існуе, то ўсё роўна волі і дабратыту народу даць ня можа. Узноў-жа, з другога боку, у той час, як нацыяналізм падпарадкавае ўсё пад дабро і волю народу, то камунізмы, сацыялізмы ды інш. падпарадкаваюць усе праявы жыцьця пад абстракцыйную правільнасьць няжывое догмы партыі. Урэшце, перавага нацыяналізму і ў тым, што ён не вырашае пытаньня канечнай сталасьці аднае формы, пры якой народ найлепш зможа жыць. Тымчасам, палітычна - партыйныя ідэолёгіі ўжо наперад азначаюць адну акрэсьленую форму жыцьця (дыктатура пралетарыяту, дэмократычнае панаваньне большасьцьці і г. д.), гвалтам увабіраючы ў яе народ, хоць-жа жыцьцё і дабро народу, у залежнасьці ад цэлага раду прычын і абставін, могуць вымагаць сяньня адну форму, заўтра другую, пазаўтра нейкую зусім новую.

Закіды, што нацыяналізацыя вядзе народы да вузкага і шкоднага заскляпеньня ў межах сваей нацыі, зьяўляюцца няслушнымі. Нацыяналізацыя гэта толькі здаровая індывідуалізацыя духовага і фізычнага вобліку народу, якая зусім не перакрэсьлівае поклічы інтэрнацыянальнага сужыцьця народаў. Наадварот, толькі праз нацыяналізацыю, г. зн. праз індывідуальны гарт народу, а не праз камунізацыі, сацыялізацыі і т. п., г. зн. не праз паслабленьне нацыянальнага арганізму,—і можна дайсьці да сапраўднага інтэрнацыяналізму, пры якім тады ня будзе пагрозы, што больш моцна зіндывідуалізаваныя арганізмы праглынуць больш слабейшыя. Толькі тады і можна будзе гаварыць аб інтэрнацыяналізьме, як аб жывой праўдзе, а не аб фікцыі, пад прыкрыцьцём каторае будзе весьціся звычайнае глытаньне слабейшага, што можам бачыць сяньня.

Усё гэта прамаўляе за тым, што і беларускі народ, яшчэ больш, чым які іншы, павінен прыступіць да неадкладнае нацыяналізацыі свайго адраджэнска - вызваленчага руху. Нацыяналізацыя беларускага жыцьця адразу ўзмоцніць кансалідацыю і гарт нацыі. Спыніць яна рознабежнасьць нашых імкненьняў, адварочваючых толькі народную ўвагу ад нацыянальнага прынцыпу — здабыцьця незалежнасьці народу. Спыніць нацыяналізацыя нашага жыцьця і штучныя распадзелы беларускага народу на няіснучыя ў ім клясы і наложыць на ўсіх аднолькавы абавязак-покліч—дабро і воля беларускага народу над усё! Практычна гэта дасьць і тое, што адразу ўзьнімецца ў народзе яго культурная і нацыянальная сьведамасьць, сам народ прыступіць да вырашэньня сваей будучыні. Сам народ з гэтага часу будзе дэцыдаваць аб формах свайго дзяржаўнага жыцьця, аб сацыяльным вобліку свайго гаспадарча-грамадзкага жыцьця. Беларуская інтэлігэнцыя, і асабліва малодшага пакаленьня, павінна ў абарону нацыяналізацыі выступіць актыўна, маючы наўвеце кансалідацыю нацыі і яе адпорнасьць перад чужымі імпэрыялізмамі. Традыцыйныя „кашулькі“ догмагычнага партыйніцтва, у якія гвалтам апранывалі наш народ, трэба, у імя дабра і волі беларускае нацыі, грунтоўна зьнішчыць. Беларускі народ, як і кожны іншы, мае сваю прыродную кашулю—свой нацыянальна-жыцьцятворчы інстынкт, які трэба не закрываць нейкімі „кашулькамі“, але якраз абнажыць яго ва ўсёй паўнаце. Інстынкт жыцьця беларускае нацыі абароніць яе найлепш ад усялякіх наступаў варожага хіжацтва, у той час, як усе гэныя сэзонныя „кашулькі“ партыйных ідэолёгіяў толькі паслабляюць адпорнасьць і ваяздольнасьць нацыі. Інстынкт жыцьця нацыі не зьвядзе яе на і бездарожжы, як гэта сяньня зрабілі партыйна-догматычныя „кашулькі“ доктрынэрства.

Дабро і воля беларускага народу—над усё!—вось зьмест і праграма беларускага нацыяналізму.

# Навярнуць беларускую вёску на шлях адраджэнскае працы!

Не падлягае ніякаму сумліву, што беларуская вёска знаходзіцца ў цемры, нішчаць яе голад і хваробы, беззямельле і недахоп працы, безграшоўе і неўраджай, словам, яна гібее пад ціскам безпрасьветнай бяды і нядолі. Нашай вёсцы мала хто дапамагае, але затое кожны імкнецца яе зыкарыстаць, ашукаць ды высмактаць з яе апошнія сокі. З пісьмаў, якія трапляюць з нашай вёскі на старонкі беларускай прэсы, ясна відаць, што варункі жыцьця нашай вёскі страшныя. Пісьмы такія—гэта крык роспачы — што будзе далей, што рабіць і дзе шукаць ратунку.

Жадаючы знайсьці нейкія выхады з гэнага жудаснага становішча, або прынамсі хоць знайсьці нейкія спосабы палёгкі ў склаўшыхся абставінах жыцьця, трэба было, бязумоўна, пазнаць перадусім крыніцы ўсяе гэтае бяды. Пазнаньне іх заўсёды дае магчымасьць больш карыснай і памыснай барацьбы з тэй бядой. У справе прычынаў нядолі нашай вёскі вытварыліся розныя погляды. Адны ўважаюць, што ўсяму прычынай агульна сусьветны эканамічны крызыс, другія — сацыяльны лад, узноў іншыя бачаць усё зло ў тым, што польская дэнацыяналізацыйная палітыка бурыць нашу вёску. Аднак усе дагэтуль згаджаюцца на адно, што беларуская вёска найбольш церпіць перадусім дзякуючы сваей культурна-нацыянальнай цемнаце.

З гэтага вынікала-бы, што апошняя прычына і будзе найгалаўнейшай, бо ўсе з ёю згаджаюцца. Словам, жадаючы прыйсьці нашай вёсцы з дапамогай, трэба было перадусім прыступіць да рашучае барацьбы з цемнатою нашай вёскі. Тымчасам, дагэтулішнія беларускія палітыкі да справы бяды нашай вёскі падыходзяць з пункту гледжаньня тварэньня нейкай вяліка-габінэтнай палітыкі. Ведаючы, што шлях барацьбы з цемнатой вёскі зьяўляецца найбольш цяжкім і мазолістым, не заўсёды ўдзячным, а для вёскі зразумелым, тым больш, што адразу відавочных рэальных карысьцяў не дае, беларуская дагэтулішняя палітыка накіроўваецца на нячэсны шлях выкарыстоўваньня і паглыбляньня блізарукасьці нашае вёскі. Справа ў тым, што вёска, безпасярэдна стыкаючыся з уладай адміністрацыйнай, скарбовай ды часта з шовіністычным элемэнтам польскім, найвідавочней і найбольш балюча адчувае іх дзейнасьць, якая б'е і па кішані, а чыста і па пачуцьцях. Вузкасьць поглядаў вёскі і бачыць усе прычыны сваей бяды толькі з гэтага боку, ня могучы зразумець сэнсу павіннасьці дзяржаўнай, існуючай у кожнай дзяржаве, ня могучы зразумець існаваньня пры гэтым ціскоў агульнага крызысу эканамічнага, урэшце, ня могучы зразумець таго, што выпадковыя надужыцьці ўрадаўцаў часта не пакрываюцца з імкненьнямі дзяржавы. І вось, пры гэткім стане рэчаў беларускай вёсцы яшчэ накідаецца думка, што ўся бяда яе выключна ў тым, што на нашых землях пануюць палякі. І дакуль яны тут будуць, датуль бяда не пакіне нашай вёскі, датуль нічога ня будзе можна зрабіць. Гэткае пераконываньне вёскі было, бязумоўна, рэальна карысным для нашых палітыкаў, бо гэныя думкі цалком пакрываліся з вузкасьцю думак вёскі, і яна таму лічыла гэтых палітыкаў за сваіх абаронцаў, аддаючы ім узамен за гэта свае галасы, патрэбныя і пры выбарчай і іншай акцыях.

Такая палітыка аднак, была папросту забойчай з пункту гледжаньня дабра справы нацыянальнага вызваленьня, з пункту гледжаньня разбудовы беларускай культуры ды сьведамасьці і якраз — дабра вёскі.

Дзякуючы гэткай палітыцы, наша вёска, а нават і самы-ж палітыкі пераблуталі дзьве розныя і сяньня з сабой не зьвязаныя справы. Найменна, мэтаю высілкаў і ахвяр сталася не здабываньне і закладаньне яшчэ не заложаных зрубаў пад нацыянальную і эканамічную незалежнасьць, але — барацьба з Польшчай. Урэшце, дайшло да таго, што імкненьне да нацыянальнае незалежнасьці сталася сяньня справай другараднай, часта для вёскі незразумелай, бо ўсё накіравалася на зваяваньне Польшчы. Бязумоўна, апошняя гэтага асабліва не спалохалася, а вёска нашая, дзякуючы ўсяму гэтаму пацярпела страшна.

І што найгорш—беларуская вёска дзякуючы гэтай палітыцы адмовілася ад усялякай работы над падняцьцем сваей культурна-нацыянальнай сьведамасьці, а нават і свайго эканамічнага дабрату, бо сьлепа паверыла сваім „абаронцам“, што дакуль тут існуе Польшча, датуль нічога позытыўнага ня можна будзе зрабіць. Нашая вёска сяньня ідэалу беларускае незалежнасьці не разумее, бо яе ўвага накіравана выключна на існаваньне Польшчы. Ня могучы яе зваяваць, вёска зьняверылася ў свае сілы, зьнеахвоцілася да працы, здэмаралізавалася бязмэтным жыцьцём. Цемра вёскі зьвялічваецца, яе эканамічны дабрабыт трапляе ў што-раз мацнейшыя ціскі бяды і вызыску, ствараецца штораз дагаднейшы грунт дзеля безнаказнага жыраваньня на цемнаце нашай вёскі, дзеля безнаказнага высмактываньня з яе жыцьцёвых сокаў.

Каму залежала на тым, каб нашу вёску дарэшты абязсіліваць — скажа прысуд гісторыі.

Нашым абавязкам павінна быць неадкладная праца над падняцьцем дабрабыту вёскі, яе культурна-нацыянальнае сьведамасьці, над разьвіцьцём у ёй імкненьня да незалежнасьці. Асягнуць усё гэта мы можам і павінны і пры сяньняшніх варунках жыцьця. Беларуская вёска павінна зразумець, што ніякага надпрыроднага цуду ня будзе, што ніхто яе з ціскоў цемры ды бяды ня вызваліць, дакуль яна сама не пачне з гэтага вызваляцца. Дакуль яна гэтых путаў з сябе ня скіне, ніякая палёгкі ня будзе, каб нават тут ня стала і палякоў. Вызваліцца яна зможа не шляхам енкаў, а тым больш не шляхам нічоганяробленьня і чаканьня ратунку з боку нейкіх дабрадзееў, але шляхам няўпорнае працы і высілкаў, шляхам адданьня на гэнае вызваленьне сваіх уласных сілаў і энэргіі.

---

заняцца і грамадзкія арганізацыі, а так-жа праваслаўнае і каталіцкае духавенства". Перад воблікам голадавае сьмерці часьціны беларускага сялянства павінны замоўкнуць галасы палітыкі і апазыцыяў. Беларуская інтэлігэнцыя і народныя масы павінны актыўна прыступіць да акцыі барацьбы з голадам, горнучыся і ахвярна спамагаючы камітэты нясеньня помачы галадаючым. Беларуская прэса і арганізацыі павінны з свайго боку наладзіць акцыю шырокае дапамогі нашаму сялянству, заклікаючы да гэтага ўсіх сьведамых беларусаў. У гэтым выпадку трэба лічыць перадусім на самых сябе, бо нікому дабро нашага народу ня можа быць больш дарагім, чым нам самым. Было-бы ганьбай і праступкам, якія памсьціліся-бы ў сваім часе на нас, калі-б мы ў гэтым няшчасьці нашых братоў бяззычна прыглядаліся на іх павольнае галоднае кананьне.

Усе на фронт барацьбы з голадам!

---

## Саматужнікам „Шляху Моладзі“ ў пятыя ўгодкі барацьбітна-адраджэнскае працы— прывітаньне і слава!

---

# Даць голас рэчовай крытыцы!

„Беларуская Крыніца“, даючы зацемку аб выхадзе ў сьвет нашае часопісі, акрэсьліла яе ў спосаб наступны: „...характар яе нацыяналістычны, а палітычны кірунак — угадова-польскі“. Не даючы гэтым словам ніякіх рэчовых абасноваў, наш крытык разагнаўшыся дадае яшчэ, „... што „нашы" ўгадоўцы, каб падыйсьці да народу змушаны ўжо апрануцца ў беларускі нацыяналізм“. У тэй-жа „Бел. Кр.“, праз некалькі дзён, аб нашай часопісі ізноў чытаем:

> „... З гэтага нумару часопісі можна атрымаць уражаньне, што к. С. Сарока—як-бы інсьпіраваны чужой варожай да беларусаў рукой—хоча ў сваей безгранічнай заразумеласьці распачаць новую эру ў беларускім руху,—хоча ў ім правесьці санацыю і стварыць беларускі позытывізм. Да дасюлешняй працы і здабыткаў у беларусаў адносіцца ён з поўнай нэгацыяй, а ўсяму дасюлешняму безгалоўю ў беларускім руху „вінаваты" павадыры гэтага руху, а ня сільныя гэтага сьвету, а калі ходзіць аб польскія ўлады, то яны, апроч колішніх эндэцкіх Грабскіх і Дмоўскіх,—як з часопісі відаць, — цалком Сарокай апраўданы!
>
> У тым-жа нумары часопісі знаходзім шмат запальных слоў, фразоолёгіі, гістэрычнага крыку. Нумар гэты ёсьць доказам ігнаранцыі праўна-палітычнага палажэньня беларусаў у Покьшчы, аб'явам неразуменьня патрэбы консолідацыі беларускіх сілаў, наадварот, ёсьць іх расьцярушываньнем,—далей ёсьць ён анархічным выбухам непачытальнага ў сэнсе політычным і заразумелага студэнта, урэшце ёсьць букетам і палітычным рэвэрансам перад польскімі ўладамі...“

Перш, чым адкінуць гэныя, нічым не абаснаваныя, закіды, трэба прыняць пад увагу адно даволі характэрнае зьявішча на беларускім грунце.

У дагэтулішняй беларускай палітыцы здабылі правы «обыватэльства» чамусьці толькі тры палітычна-тактычныя кірункі: 1) палянафільска-ўгадовы, які, маскуючыся радыкалізмам або чым іншым, быў сапраўды ўгодніцкім, бо за невялічкія канцэсіі адмаўляўся ад некаторых правоў беларускае самастойнасьці; 2) чырвонамаскоўска—ўгадовы, які, пад прыкрыцьцём абароны масаў перад социяльнай несправядлівасьцю і іх нацыянальнага вызваленьня, накіроўваў гэныя масы на Маскву, прышчэпліваючы ім камунізм, правакуючы іх на выступленьні супроць дзяржавы; 3) беларуска-літва-ўкраінскі саюзны, які, ідучы пад сьцягам незалежнасьці, разумеў змаганьне за незалежнасьць як непрызнаваньне палітычных абставінаў рэальнага жыцьця, тварэньне абструкцынай апазыцыі, прычэпліваньне масам поглядаў максымалістычных, рэальна нічога не асягаючых.

Вышэй пералічаныя кірункі сталіся сяньня свайго роду трыма шуфлядкамі, у вадну з каторых і павінна абавязкава ўлажыцца кожнае грамадзка-палітычнае выступленьне на грунце беларускім. Калі-ж гэта не ўдаецца зрабіць, нашы палітыкі клічуць на помач сваю ўмелую інтэрпрэтацыю і тады ўжо кожнае выступленьне напэўна падыходзіць да аднэй з такіх шуфлядак.

Нашае становішча палітычнае, тактычнае зусім непадобнае да існуючых сяньня і прызнаных трох кірункаў. Палітычна—мы вызнаём незалежнасьць і непадзельнасьць беларускае нацыі, нашым ідэалам — Беларусь-беларусу. Тактычна-практычна да ажыцьцяўленьня гэтых ідэалаў мы падходзім наступна. Незалежнасьць здабудзем толькі ўласнымі сіламі і ахвярамі, але не палітычнымі саюзамі, здабудзем — позытыўнай ціха-ўпорыстай работай, а не энфэктоўнымі выкрыкамі максымалізму. Лічымся з рэальным жыцьцём,—што ня знача, быццам яго апраўдываем,—і замест дэмонстрацыйных абструкцыяў, будзем здабываць усё, што толькі можна пры склаўшыхся абставінах здабыць

„Бел. Крыніца“ з розных поглядаў навасьць і незалежнасьць нашых шляхоў прызнаць ня можа, а таму імкнецца даць адпаведную інтэрпрэтацыю, каб абавязкава нас уціснуць у вадну з трох шуфлядак. Нашае падыходжаньне рэальна да жыцьця яна тлумачыць без усялякай абасновы ўгодніцтвам і ўціскае нас у шуфлядку палянафільскае ўгоды.

Адказываем на закіды.

Угодаю сябе ня лічым, бо абсалютна з ніякіх правоў, належачых беларускаму народу, мы ня зракаемся і не адступаем, наадварот, вызнаючы непадзельнасьць і самастойнасьць нацыі, самі з кожнай угодай будзем рашуча змагацца. Нашу працу інспіравала не чужая беларускаму народу рука, але пачуцьцё адказнасьці перад будучыняй народу і гісторыяй, якое ня можа пагадзіцца з марнаваньнем народных ахвяр і высілкаў, пры адначасным нічоганяробленьні. „Дасюлешняя праца і здабыткі“ —гэта ў найлепшым разе пустыя словы і таму адносімся да іх сапраўды з поўнай нэгацыяй. Дасюлешняму безгалоўю, існаваньне якога прызнае і сам наш крытык, бязумоўна вінаваты нашы „павадыры“. Калі сьцяну лбом ня можна разьбіць, трэба сьцяну абыйсьці. Калі-ж хто, наадварот, накіроўвае яшчэ і іншых на разьбіваньне лбоў аб гэтую сьцяну, то адказывае за гэта не сьцяна, але павадыры біцьця лбоў. Сьцьверджаньне гэтага факту зусім ня ёсьць абаронай сьцяны, але якраз пачуцьцём адказнасьці за безкарысна разьбіваныя галавы і нічоганяробленьне. Не ігнаруем і праўна-палітычнага палажэньня беларусаў у Польшчы, бо якраз і заклікаем ва-ўсёй паўнаце гэнае палажэньне выкарыстаць для беларускай справы. Разумеем, больш чым хто, патрэбу кансалідацыі беларускіх сіла і таму ня робім з гэтага пустога слова, але якраз і заклікаем спыніць доктрынэрства і з ім зьвязаныя грызьні ды аб'яднацца ўсім на грунце позытыўна-рэальнай работы над здабыцьцём зрубаў пад духовую і палітычную незалежнасьць народу. Ніякіх нікому рэвэрансаў ня робім, а з наліччам цывільнае адвагі і адказнасьці за робленае, праводзім вострую самакрытыку якраз дзеля запыненьня палітычнай непачытальнасьці і заразумеласьці нашых павадыроў, спрычыняючых анархізацыю позытыўнай разбудовы нацыі. Бачым, закіды ня вытрымоўваюць крытыкі і зроблены пад уражаньнем пачуцьця незараднасьці.

З іншых бакоў мы крытыкі яшчэ не дачакаліся, бо ня лічым за крытыку нашых шляхоў працы тыя дзяцінна-наіўныя запытаньні— а скуль Сарока ўзяў грошы.

Крытыкі сваіх шляхоў не баімося і якраз кожнаму скрытыкаваньню нас будзем удзячны. Аднак, крытыка павінна быць рэчовай, бяз лаянак і жоўці. На кожны закід, уаргумэнтаваны рэчовай крытыкай, адкажам неадкладным выраўнаньнем сваей лініі.

